

*магілёўскі*

# Выбар

**№ 3**
*Сакавік*
*2012 г.*

***Абласная Дэмакратычная Трыбуна***

# Каму выгодна ўтрымліваць гэтую прорву?

*Рыгор Кастусёў. Намеснік старшыні Партыі БНФ, экскандыдат на пасаду прэзідэнта Рэспублікі Беларусь на выбарах-2010. Нарадзіўся ў 1957 годзе ў вёсцы Цяхцін Бялыніцкага раёна. У 1982 годзе скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію па спэцыяльнасці інжынер-механік. Служыў у Савецкай арміі, працаваў галоўным інжынерам, дырэктарам саўгаса, дырэктарам Шклоўскага раённага аб’яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі. У 2001 годзе вымушаны быў сысці з пасады пад ціскам уладаў з-за працы ў камандах кандыдатаў ад дэмакратычных сілаў. Быў дырэктарам сумеснага беларуска-ўкраінскага прадпрыемства. Тройчы абіраўся дэпутатам мясцовых саветаў. Аўтар праграмы развіцця і рэфармавання жыллёва-камунальнай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь на 2010-2015 гады, прапанаванай Партыяй БНФ.*

Нярэдка шматлікія беларускія чыноўнікі, дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі падкрэсліваюць, што ў Беларусі ўсе сельскагаспадарчыя плошчы заўсёды дагледжаны, апрацаваны, і, у адрозненні ад іншых краін былога Сюза, сітуацыя ў сельскай гаспадарцы нашай краіны найлепшая ў параўнанні з іншымі. Нават еўрапейскія краіны былога сацыялістычнага лагеру і іх суседзі, па словах беларускага чынавенства, адстаюць у гэтым плане ад Беларусі. І ўсё гэта прыпадносіцца як дасягненні, атрыманыя дзякуючы “дальнябачнаму, бацькоўскаму клопату” нашага кіраўніцтва.



***Рыгор Кастусёў***

Але ж ці так гэта? І што, насамрэч, уяўляе на сённяшні дзень сельская гаспадарка нашай краіны?

Агульная плошча сельскагаспадарчых зямель па дадзеных на пачатак 2011 года — 8897,5 тыс. га, што складае каля 1 га на аднаго жыхара Беларусі. Агульная плошча ворыўных зямель — 5510,5 тыс. га, што адпавядае амаль 0,6 га на аднаго беларуса. У краінах Еўрапейскага Саюза дадзены паказчык складае 0,2 га на аднаго чалавека, а , напрыклад, у Германіі — усяго толькі 0,12 га.

З агульнай плошчы ворыўных зямель 4698,2 тыс. га знаходзяцца ў карыстанні сельгасарганізацый, 682,1 тыс. га (каля 12%) — у карыстанні грамадзян (асабістыя і фемерскія гаспадаркі, лецішчы), з іх у карыстанні фермераў — 85,4 тыс. га.

У 2010 годзе вытворчасць сельскагаспадарчай прадукцыі склала ў бягучых коштах 35,6 трлн. руб. (55,2% — прадукцыя раслінаводства, 44,8% — прадукцыя жывёлагадоўлі). Каля 2/3 ад агульнага аб’ёма сельскагаспадарчай прадукцыі вырашчана ў дзяржаўных прадпрыемствах (менш паловы прадуцыі раслінаводства, 90% — прадукцыя жывёлагадоўлі). Доля вытворчасці бульбы ў дзяржаўных сельскагаспадарчых арганізацыях склала ўсяго толькі 11,1%, гародніны — 12,9%...

***(Пачатак. Працяг на стар. 2-3)***

## У Магілёўскім беларускамоўным класе засталася адна вучаніца

Двое другіх вучняў другога класу сярэдняй школы №1 перайшлі ў іншую школу. Зміцер Салаўёў, бацька адзінай застаўшайся вучаніцы беларускамоўнай класы адзначае, што змена дзецьмі школы не звязана з мовай навучання, а носіць выключна асабісты характар. “Мая дачка засталася адна. Адміністрацыя школы не робіць ніякіх крокаў, каб колькасць вучняў у беларускамоўнай класе павялічылася. Як скончыцца навучальны год – зноўку распачнем кампанію па папулярызацыі беларускамоўнага навучання. Зараз гэта рабіць не будзем, бо мала хто з бацькоў адважыцца сярод вучэбнага году перавесці сваіх дзетак у іншы клас”, - гаворыць Зміцер.

“Хачу адзначыць, што цяпер мая дачка займаецца індывідуальна. У яе фактычна свае рэпетытары. На перапынках жа яна гуляе з іншымі дзецьмі”, - адзначае Зміцер Салаўёў.

Нагадаем, што ад 2010 году ў Магілёве з’явіўся адзіны ў вобласці беларускамоўны клас, у якім да нядаўняга часу навучалася трое дзетак. Дагэтуль намаганнямі бацькоў сям’і Салаўёвых была створана адзіная ў горадзе беларускамоўная група ў адным з дзіцячых садкоў гораду.

***spring96.org***



# Каму выгодна ўтрымліваць гэтую прорву?

*(Працяг. Пач. на стар. 1)*

За апошнія 10 год, з 2001 па 2011 гг., у сельскую гаспадарку з бюджэту краіны было накіравана 40 млрд. долараў. Узровень датацый дасягаў 60%. У той жа час дадзены паказчык у еўрапейскіх краінах вагаецца ад 20% да 30%. Практычна ўсе гэтыя сродкі былі накіраваны на падтрымку дзяржаўных прадпрыемстваў АПК.

Нягледзечы на такія агромністыя фінансавыя ўліванні ў сяло, перамен да лепшага там не адбываецца. Аб чым сведчыць падзенне агульнай колькасці сельскагаспадарчай тэхнікі, выкарыстоўваемай на сяле. Напрыклад, паказчык забяспячэння трактарамі знізіўся з 15 трактароў на 1000 га ворыва ў 2000 годзе, да 10 у 2010-м. Аб нізкай эфектыўнасці выкарыстання сродкаў, выдзяляемых для АПК краіны, сведчыць і нізкая да гэтай пары ўраджайнасць зерневых, зернебабовых і іншых культур у параўнанні з краінамі Заходняй Еўропы. Нават у такой паўночнаеўрапейскай краіне, як Швецыя, ураджайнасць сельгаскультур, паказчыкі вытворчасці прадукцыі жывёлагадоўлі ў 2-3 разы пераўзыходзяць беларускія паказчыкі згодна афіцыйных статыстычных дадзеных.

А нядаўна, 2 снежня 2011 года, выказаў сваю незадаволенасць нізкай эфектыўнасцю выкарыстання сродкаў, укладваемых у сельскую гаспадарку, а таксама работай АПК краіны і А.Лукашэнка ў час працоўнай паездкі ў Івацэвіцкі раён Брэсцкай вобласці.

Дык у чым жа прычына? Чаму пры такой масіраванай фінансавай падтрымцы з боку дзяржавы сельская гаспадарка Беларусі па сваіх паказчыках у разы адстае ад еўрапейскіх краін? Чаму пры наяўнасці ў нашай краіне да 0,6 га ворыўных зямель на аднаго чалавека не горшай па якасці чым у астатняй Еўропе, мы ўсё яшчэ вырашаем праблему “харчовай бяспекі”? У той час як Заходняя Еўропа мае праблему збыту прадукцыі сельскай гаспадаркі па прычыне яе перавытворчасці пры наяўнасці ворыўных зямель каля 0,2 га на аднаго жыхара…

Асноўная прычына адсталасці сельскай гаспадаркі Беларусі крыецца ў адсутнасці на зямлі сапраўднага гаспадара, а дакладней — у адсутнасці прыватнай уласнасці на зямлю.

За дваццаць год Незалежнасці Беларусі не змянілася сістэма карыстання асноўным нашым багаццем. Да гэтай пары ў нас захавалася ўродлівая савецкая форма гаспадарання на зямлі ў выглядзе “сталінскіх калгасаў”, створаных у 20-40-х гадах мінулага стагоддзя, нягледзячы на тое, якую назву яны маюць зараз і пад якой шыльдай знаходзяцца.

Да гэтай пары ўсімі працэсамі сельскагаспадарчай вытворчасці, ад апрацоўкі глебы да продажу прадукцыі, кіруюць разнастайныя чыноўнікі з кабінетаў рай- , аблупраўленняў, кабінетаў Міністэрства сельскай гаспадаркі. Агульная колькасць чынавенства з кожным годам павялічваецца, пры тым, што колькасць насельніцтва, занятага ў сельскай гаспадарцы Беларусі за апошнія 20 год скарацілася ў 3 разы. У краіне склалася сітуацыя, што нават ні адзін кіраўнік сельгаспрадпрыемства без дазволу “з верху” не мае права прыняць рашэнне аб збыце прадукцыі свайго прадпрыемства.

Гэтыя ж чыноўнікі распараджаюца і фінансавымі сродкамі, выдзяляемымі дзяржавай для інвеставання сяла. І калі ў заходнееўрапейскіх краінах сродкі даходзяць да гаспадара, да чалавека, які ўладарыць і працуе на зямлі, і ўжо ён прымае непасрэдны ўдзел у прыняцці рашэнняў аб іх выкарыстанні, то ў нашай краіне да сельгаспрадпрыемстваў фінансы праходзяць праз грамаднае сіта чынавенства і выкарыстоўваюцца пад кантролем і з дазволу гэтага чынавенства. Пры гэтым, часцей за ўсё, адказнасці за вынікі таго або іншага рашэння чыноўнікі не нясуць. А там, дзе няма адказнасці, узнікае карупцыя. Толькі на будаўніцтве аб’ектаў сельскагаспадарчай вытворчасці, жылля раскрадаецца да 30% фінансавых сродкаў, выдзяляемых з дзяржбюджэту. Гэта ўсё пачынаецца з размяшчэння заказаў на праектаванне аб’ектаў і працягваецца пры прыняцці рашэнняў аб прадастаўленні права на будаўніцтва аб’ектаў, закупцы матэрыялаў, абсталявання, закупцы пагалоўя для напаўнення комплексаў і т.д.

У выніку падобных безадказных




рашэнняў мы маем нярэдка выпадкі, што да гэтай пары жыллё, пабудаванае колькі год таму на сяле, стаіць не заселеным. Ёсць прыклады, калі падобныя домікі былі знесены пасля ўвядзення іх у строй, але там ні дня не жылі людзі. Ёсць шмат пытанняў і па размеркаванні падобнага жылля, калі яно ператвараецца ў дачныя дамы для чыноўнікаў, пражываючых у гарадах.

Асноўнай “кармушкай” для чынавенства з’яўляецца магчымасць па размяшчэнню заказаў для закупкі абсталявання, матэрыялаў, семян, нецеляў (для запаўнення комплексаў буйной рагатай жывёлы) за мяжой з умовай разліку валютай. У выніку, замест пародзістых нецеляў у краіну завозяцца выбракаваныя жывёлы, не адпавядаючыя неабходным якасцям. І, нярэдка, у выніку неспрыяльных умоў утрымання, праз 2-3 гады яны выбракоўваюцца ўжо і ў нас для здачы на мясакамбінат.

Для беларускіх кантралюючых, праваахоўных органаў гэта аграмаднае “поле” для работы, але, нажаль, дадзеныя пытанні найчасцей па незразумелых прычынах застаюцца па-за іх увагай.

Нязменным у плане інвеставання сяла застаецца падыход кіраўніцтва краіны і на бягучае 5-годдзе. Нязменным, відаць, застанецца і падыход чыноўнікаў да працэсу размеркавання і расходвання гэтых сродкаў.

Указам прэзідэнта РБ № 342 ад 1 жніўня 2011 года зацверджана новая дзяржаўная прграма ўстойлівага развіцця сяла на 2011-2015 гады. На рэалізацыю Праграмы плануецца выдзяленне 29,8 трлн. руб. з бюджэту краіны , у тым ліку 27 трлн. — на развіццё вытворчай сферы, 2,8 трлн. — сацыяльнай.

*(Заканчэнне на стар. 3)*

# Каму выгодна ўтрымліваць гэтую прорву?

*(Заканчэнне. Пач. на стар. 1-2)*

Адным з прыярытэтных накірункаў дадзенай праграмы з'яўляецца ўмацаванне і разіццё эканомікі арганізацый АПК шляхам удасканалення цэнаўтварэння, дзяржаўнай падтрымкі структур АПК, збліжэнне і выраўноўванне падаткаабкладання з краінамі — удзельніцамі Мытнага саюза, аптымізацыі страт, аздараўленню фінансавага стану аргнізацый і іншых механізмаў.

Здаецца, і неблагія намеры. Але не паспелі засохнуць чарнілы на падпісаным указе за № 342, як беларускае чынавенства імкліва ўзялося за самую "цяжкую працу" — распіл "бабла". Так склалася, што найлепшыя поспехі ў гэтым плане маюць шклоўскія чыноўнікі. Як вядома, Шклоўскаму раёну надаецца асаблівая ўвага, тут пабудаваны і будуюцца каля двух дзесяткаў разнастайных новых жывёлагадоўчых аб'ектаў, а для іх запаўнення неабходна мець пагалоўе. І калі яго няма, то прымаецца рашэнне аб закупе неабходнай колькасці жывёлы ў іншым рэгіёне нашай краіны або за яе межамі. Кіраўніцтвам Шклоўскага раёна было прынята рашэнне аб закупе нецелей за выдзеленыя дзяржаўныя сродкі ажно ў Сербіі. Каля 1 млн. долараў праз адзін з расійскіх банкаў і было праплочана сербскаму боку. Прайшло ўжо колькі месяцаў, але да гэтай пары ні нецелей, ні грошай. Шклоўскім РАУС узбуджана крымінальная справа, але нават і падазраваныя да гэтай пары не знойдзены.

І падобнае творыцца ў Шклоўскім раёне, да якога асаблівая ўвага і з боку кантралюючых органаў, і з боку кіраўніцтва краіны. А што ж тады робіцца ў іншых раёнах?

Калі справы ў сельскай гаспадарцы будуць і надалей развівацца ў падобным рэчышчы, то не збыцца марам А.Лукашэнкі аб дасягненні да канца бягучай пяцігодкі 7 млрд. долараў у экспарце сельгаспрадукцыі, і не станем мы ніколі, як ён марыць, багатымі, не зажывём у дастатку, не забудзем, што такое недахоп валюты. А сельская гаспадарка Беларусі так і застанецца той бяздоннай прорвай, якая кожны год будзе патрабаваць і патрабаваць усё новых і новых фінансавых сродкаў.

***Рыгор Кастусёў***

# У Хоцімску нагадалі пра палітвязняў




У гарадскім пасёлку Хоцімск напрыканцы лютага з'явіліся ўлёткі з пытаннямі "Калі адпусцяць палітвязняў?" і "Калі нашы суды стануць незалежнымі?". Акцыю ў межах кампаніі "100 пытанняў да ўлады" правялі мясцовыя актывісты "Гавары праўду".

– Мы даволі даўно не праводзілі ў Хоцімску інфармацыйныя акцыі, бо існуе вельмі пільны кантроль з боку мясцовай улады, - кажа хоцімскі актывіст Валерый Каранкевіч. – Аднак напрыканцы лютага мы здолелі зрабіць вельмі добрую акцыю, вывесілі ў найбольш людных месцах інфармацыйныя матэрыялы. Шмат было ўлётак з пытаннямі "Калі адпусцяць палітвязняў?" і "Калі нашы суды стануць незалежнымі?". Лічу, што вызваленне палітвязняў – гэта тое, што беларускія ўлады павінны зрабіць без усялякіх умоваў. Людзі падыходзілі, цікавіліся, акцыя атрымалася рэзананснай. Улёткі правіселі больш за чатыры гадзіны, пасля паўсюдна былі знятыя па загадзе раённых уладаў.

***БВ***

# З Магілёўскага заводу штучнага валакна скарачаюць 442 чалавека




Прычынай масавага звальнення людзей з'яўляецца рэарганізацыя завода ў сувязі з яго нізкай рэнтабельнасцю.

Скарачэнне людзей з цэху па вырабу ядвапу будзе адбывацца з 13 сакавіка па 1 красавіка бягучага году.

Мясцовыя ўлады будуць прапаноўваць іншыя працоўныя месцы людзям, якія патрапілі пад скарачэнне. У прыватнасці, рабочыя, якія крышку не дапрацавалі да пенсіі па шкоднасці, змогуць працаўладкавацца на "Магілёўхімвалакно".

У іншым выпадку працаўладкавацца можна праз Магілёўскі гарадскі цэнтр занятасці насельніцтва. Людзі, якія былі скарочаны з заводу штучнага валакна, будуць мець першаснае права на атрыманне новай працы.

Застаўшыяся пабудовы разам з тэрыторыяй заводу будуць уключаны ў склад свабоднай эканамічнай зоны. Вытворчасць па вырабу плёнак плануецца захаваць. Скарачэнне 800 чалавек, якія працуюць над іх вырабам, не плануецца.

***Вітольд Няўрыда, "Наш Магілёў"***

## Объявление

Уважаемые жители г. Могилева и Могилевской области!

В УВД Могилевского облисполкома с 12 марта по 12 апреля будет работать «телефон доверия» по противодействию коррупции. Об известных вам фактах коррупционных преступлений, совершаемых должностными лицами, можно сообщить в рабочие дни с 9:00 до 18:00 по телефону 25-39-95. Анонимность гарантируется.

***Отделение информации и общественных связей УВД***

*меркаванне*

# ЯК І ШТО ДУМАЮЦЬ ПРА НАС СУСЕДЗІ…

**Доктар гісторыі Варшаўскага ўнівэрсітэта Ежы Таргальскі ў дасканальнасці валодае ажно 20-цю замежнымі мовамі і валодае таму вялікай гістарычнай і актуальнай інфармацыяй шмат пра што з першакрыніцаў. Ён пагадзіўся адказаць на шэраг «беларускіх» пытанняў ад нашага карэспандэнта Валерыя СЯДОВА.**

*- Спадар прафесар, не маглі б Вы ўказаць тое месца, якое на геапалітычнай мапе Еўропы займае цяперашняя Беларусь?*

- На вялікі жаль, зрабіць гэтага не выпадае, бо Беларусі на гэтай мапе па-просту не існуе сёння. Няма такога суб’екта ні ў еўрапейскай, ні ў сусветнай палітыцы. На геаграфічнай мапе Беларусь ёсцЬ, але не больш таго. Ды і тут часцяком Беларусь успрыймаецца толькі як зона непасрэднага ўплыву Расеі, а тое і ўвогуле як ейная частка. А таму ні ЗША, ні Еўропа не прадпрымаюць па вялікаму рахунку ў дачыненні да Беларусі ніякіх самастойных крокаў і дзеянняў без узгаднення іх з Расіяй. Іншым разам гэта не адразу бачна, але, на маюдумку, гэта так.

*- Але Вы не можаце адмаўляць таго, што і назва краіны і прозвішча ейнага кіраўніка пастаянна мільгацяць на старонках сусветнай прэсы і ёсць нагодай для інфармацыйных агенцтваў. Гэта што азначае?*

- Так, гэта сапраўды так. Але гэтая ўвага адбываецца праз скажоныя маральныя рэаліі, што існуюць у краіне. Тут няма гаворкі пра беларускі народ і ягоную перспектыву. Тут вядзецца толькі пра самога Лукашэнку і ягоны лёс, пра ягоную ўладу і ягонае атачэнне. А ягоныя развагі і заклінанні пра нейкую “самастойную незалежную палітыку” – пустая дэмагогія, разлічаная на недасведчанага абывацеля, якіх у краіне, на жаль, шмат. Насам жа рэч, дзейнасць існуючай у Беларусі ўлады не ідзе за межы, якія ёй устанавіла Расія. Вазьміце прыватызацыю – ці ж яна робіцца ў інтарэсах грамадства і краіны?! Не, яна відавочна робіцца ў інтарэсах і пад дыктоўку ўсходняй суседкі.




У абмен на спрыянне і замацаванне лукашэнкаўскай уладзе. Не будзе ў ёй патрэбы для Расіі, а такі варыянт я не выключаю, то і тут Расія скажа сваё слова.

*- Чаму ж у нас так склалася?*

- У пэўнай ступені, крані такога становішча варта шукаць у гісторыі. Асабліва з часоў Расійскай імперыі, а таго больш – у савецкіх часах. Менавіта тады быў практычна знішчаны беларускі нацыянальны генафонд. А менавіта гэтыя людзі былі носьбітамі беларускай культуры, мовы, самабытнасці, традыцый і гісторыі. Была знішчана інтэлігенцыя. Дарэчы, такое паняцце – інтэлігент, у нашым успрыйманні і разуменні хто гэта — існуе толькі ў нас. У палякаў, у рускіх, у ўкраінцаў, у літоўцаў… ну, і канешне, у беларусаў.Яны першымі за тое і траплялі пад рэпрэсіі. Практычна не засталося тых, каго б можна было аднесці да эліты нацыі. Якая б адстойвала нацыянальныя інтарэсы, нацыяльнальную будучыню. Гераічных, патрыятычных людзей у краіне немала. Але я гавару пра эліту, пра шырокае кола інтэлігенцыі. Іх яўна недастаткова, а яны – рухавік усяго добрага.

*- У Беларусі сёння шмат хто разлічвае на дэмакратычную дапамогу з боку Польшчы. поддержку Польши. Але ці ёсць у польскага ўраду самастойная палітыка ў адносінах да Беларусі?*

- Самастойная палітыка праводзілася ў нас за часамі прэзідэнства Леха Качыньскага. Вось тады ў польскага боку была відавочная спроба дапамагчы краінам, якія выпрасталіся расейскага ўплыву.А сённяшні ўрад, моцна ўбудаваны ў еўрапескую агульную палітыку, такой самастойнай палітыкі не мае. Наш міністр замежных спраў пастанна цвердзіць, што “варта хутчэй інтэграваць Расію ў Езўропу”. Выглядае, што Польшча не супраць так званага “калінінградскага трохкутніка” – Нямеччына-Расія-Польшча. Ну, і дзе тут Беларусь?..

*- А як бы Вы ацанілі беларускую апазыцыю?*

- Я ўжо сказаў, што ў вас шмат мужных і патрыятычных людзей. Але беларускую апазыцыю не падтрымлівае ў шырокім сэнсе народ. І пачалося гэта даўно, у перыяд першых незалежніцкіх выбараў. Яшчэ тады і апазыцыя, і народ не зразумелі, што асноўная небяспека для беларускага суверэнітэту ідзе не ад Кэбіча, а ад Лукашэнкі. Вось гэтую памылку ніяк не ўдаецца выправіць да гэтага часу. Канешне, краіне не хапала ў тыя часы, як гэта было ў Латвіі ці Эстоніі, “нацыянал-камуністаў”, нацыянальна настроенай наменклатуры. Але яна ўсё ж была, але яднацца з ёй “чыста нацыянальная” апазыцыя не стала. І пацярпела паразу.

***(Пачатак. Закан. на стар.5)***

## Эканоміка Магілёва ўваходзіць у рэцэсію?



Магілёўскія склады «назапасілі» 783 мільярды рублёў, стратных прадпрыемстваў стала ўдвая больш

Магілёўскія прадпрыемствы за два месяцы 2012 года не выканалі планаў па вытворчасці, запасы гатовай прадукцыі на складах узраслі на 10%, нерэалізаванай прадукцыі ляжыць на 783 мільярды рублёў. За гэты ж перыяд з 14 да 28 вырасла колькасць стратных прадпрыемстваў. Магілёўская гарадская эканоміка атрымала нездавальняючыя ацэнкі, паведамляе 2-гі канал Магілёўскага тэлебачання.

## ЯК І ШТО ДУМАЮЦЬ ПРА НАС СУСЕДЗІ…

*(Заканчэнне. Пач. на стар. 4)*

*- Што ж нас чакае далей?*

- На жаль, на маю думку, у Польшчы апошнім часам уладу саступілі нашы нацыянал-патрыятычныя сілы. Вядзецца прарасійская, "прагматычная" палітыка. Ды такая ж уласцівая сённяшняй і ўсё астатняй Еўропе. Як ужо адзначалася вышэй – сувярэннай, дэмакратычнай Беларусі ў ёй месца няма.

*- Выходзіць, рацыю маюць тыя, хто заклікае да таго, каб пакуль дыктатура не сыйшла, нічога асаблівага і не рабіць, каб не множыць ахвяры без надзеі на хуткую перамогу дэмакратыі і маралі?*

- Не, гэта, зразумела, не так. За гэтым хаваецца жаданне нічога не рабіць і змірыцца з тым, што ёсць, стоячы ў баку. Не, трэба ставараць, аднаўляць нацыянальную эліту – усімі магчымымі спосабамі. І канешне, удзельнічаць у палітычным жыцці (тут шмат спосабаў і магчымасцяў разумных), у грамадскіх акцыях і быць, як гаворыцца, на чэку – каб не праспаць той спрыяльны момант для змены сытуацыі, які можа – павінен! – выпасці беларусам. Я ў гэта веру!

***Шклоў-Варшава-Шклоў***

# КЛІМАВІЦКАЯ ГАРЭЛКА АДКАЗВАЕ ЗА ПАРУШЭННЕ ЗАКОНАЎ РЫНКУ

Калісьці на 10-мільённую Беларусь мелася ўсяго 5 заводаў па вытворчасці гарэлкі і лікёра-гарэлачных вырабаў. Для патрэб краіны гэтага хапала і было нават зашмат. Але, пачынаючы з 1994 года, становішча ў гэтай сферы змянілася карэнным чынам. Ужо ў 2005 годзе па афіцыйных звестках Урада налічвалася 166 арганізацый, якія валодалі ліцэнзіяй на вытворчасць спірта, лікёра-гарэлачный і вінаробнай прадукцыі. Беларусь літаральна захлынулі алкагольныя хвалі. Разам з тым вытворцы пастаянна скардзяцца на адсутнасць умоў для працы. Што робіцца з беларускай гарэлкай і чаму сітуацыя дасюль не выправілася да лепшага? Адказ на гэтае пытанне паспрабуем адшукаць на прыкладзе Клімавіцкага ЛГЗ.




### НЕЗАЙЗДРОСНАЕ ЛІДАРСТВА

У Беларусі Клімавіцкі лікёра-гарэлачны завод уступае толькі Мінскаму "Крышталю". Па маштабах выпуска прадукцыі, абсталяванню, тэхналагічнаму ўзроўню яго ўключаюць у групу лідараў галіны на постсавецкай прасторы.

Быць сярод лідараў — пачэсна, але не сакрэт, што Клімавіцкі ЛГЗ неаднаразова перажываў і перажывае цяжкія часы. І сусветны фінансава-эканамічны крызіс тут абсалютна ні пры чым, бо цяжкасці ўзніклі задоўга да ўсялякіх крызісаў. Напрыклад, яшчэ ў 2001 годзе паведамлялася аб затаваранасці ЛГЗ. Тады завод быў вымушаны штомесяц плаціць 30 млн. руб. за захоўванне на складах 800 тысяч бутэлек з алкагольнымі напоямі. І гэта па тых коштах! Альбо згадаем інфармацыю "Национальной экономической газеты", згодна з якой даўгі прадпрыемства ў 2003 г. складалі 18 мільярдаў пры ацэначнай вартасці самога завода ў 14 мільярдаў.

Невыпадкова ў 2006 г. Клімавіцкі ЛГЗ атрымаў 5-гадовую адтэрміноўку па пагашэнню запазычанасці. Гэта была запазычанасць па плаце падаткаў на велізарную суму ў 50 мільярдаў. Наўрад ці гэтая мера дапамагла, бо праз пяць гадоў, у снежні 2011 г., завод зноўку атрымаў дзяржпадтрымку ў выглядзе чарговай шматмільярднай адтэрміноўкі. Такім чынам, эканамічны бок справы не дазваляе лічыць, што прадпрыемства можа ўсур'ёз прэтэндаваць на лідарства сярод вядомых алкагольных "цяжкавагавікоў". Магчыма, сакрэт поспеху ў кадрах, якія, як вядома, вырашаюць усё?

### ГАРЭЛАЧНЫЯ КАМАНДЗІРЫ

Самы вядомы з дырэктароў — гэта Белавусаў Міхаіл Трыфанавіч, які ўзначальваў завод з 1981 года. Пры ім не ведалі, што такое адсутнасць пакупнікоў, не маглі ўявіць, што вытворчасць гарэлкі можа быць стратнай. Але пасля лёсавызначальнага 1994-га на прадпрыемстве паступова адчулі непрыемныя тэндэнцыі. Аднекуль нечакана з'явіліся паўкрымінальныя канкурэнты, а на рынках запанавала падробленая гарэлка. У гэткіх умовах прыбыткі ЛГЗ зацікавілі новых уладароў жыцця. Старшыня райвыканкаму Уладзімір Канавалаў пачаў цiснуць на дырэктара Белавусава, прапануючы яму звольніцца з завода.

***(Пачатак. Закан. на стар. 6)***

# КЛІМАВІЦКАЯ ГАРЭЛКА АДКАЗВАЕ ЗА ПАРУШЭННЕ ЗАКОНАЎ РЫНКУ

***(Заканчэнне. Пач. на стар. 5)***

Некалькі гадоў супрацьстаяння скончыліся прыходам сюды Вячаслава Рамашкевіча.

Прозвішча Рамашкевіча запомнілася па гучных крымінальных справах. Напрыканцы 2001 года праваахоўнікі затрымалі аўтатранспарт, які вывозіў з тэрыторыі ЛГЗ скрыні з гарэлкай. Транспарт суправаджаў міліцыянт, а за рулём быў службовы кіроўца Канавалава. У адносінах да “вертыкальшчыка” распачалі следства, быў зняты з пасады начальнік Клімавіцкага РАУС. Рамашкевіч пазбегнуў адказнасці, праз пару гадоў апынуўся ў Белкаапсаюзе. Але лёс не падманеш, пазней ён быў прысуджаны да 10 гадоў пазбаўлення волі. Суд вызначыў, што дзейнічаючы ў складзе арганізаванай групы, ён скраў на ЛГЗ 548 мільёнаў руб.

З чэрвеня 2005 па снежань 2006 г. Клімавіцкім заводам кіраваў малады і амбіцыйны Дзмітрый Бонахаў. Калі 33-гадовы гендырэктар трапіў на прадпрыемства, то, па ягоных словах, убачыў неабходнасць навядзення элементарнага парадку. Перш за ўсё Бонахаў узяўся за дысцыпліну, але не забываўся і аб вытворчасці. У хуткім часе калектыў запрацаваў у тры змены. За 2005 год тэмпы росту дасягнулі 123%, а ў наступным 2006-м — 162%. Але 27 снежня 2006 г. энергічнага кіраўніка нечакана прызначылі старшынёй Бабруйскага гарвыканкаму. Наўрад ці сам Бонахаў жадаў апынуцца ў Бабруйску. Якраз перад тым для завода спецыяльна прыдбалі більярд, да якога, кажуць, малады дырэктар быў вялікім аматарам.

Наступным прызначэнцам стаў Аляксандр Бабічаў, які трапіў на ЛГЗ з пасады кіраўніка камбіната хлебапрадуктаў. Ён таксама пратрымаўся на заводзе нейкіх пару гадоў, а потым узначаліў Слуцкі камбінат. Пры ім адбылася мадэрнізацыя вытворчага абсталявання, напрыклад, усталявалі італьянскую лінію розліва гарэлкі коштам 500 тысяч еўра. Але тэмпы, узятыя ягоным папярэднікам Бонахавым, зніжаліся кожны год. Прадпрыемства, як і ўся краіна, напоўніцу спазнала крызіс.

## НЕ ХАПАЕ РЭАЛЬНАГА РЫНКУ

З 2010 года генеральным дырэктарам з'яўляецца Мікалай Бялко, які працягвае знакамітую дынастыю. Яго бацька кіраваў сталічным “Крышталем”, дзядзька — Брэсцкім “Белалко”. Спадар Бялко мае неабходныя сувязі, досвед, дзве вышэйшых адукацыі. Тым не менш, справы на прадпрыемстве пагаршаюцца. Сёння клімавіцкая гарэлка амаль не прадаецца за межамі краіны. На экспарт для замежных спажыўцоў пастаўляецца меней 7% ад усяго аб'ёму прадукцыі. Сітуацыю на ўнутраным рынку таксама нельга назваць здавальняючай. Падобна, што завод выратуе толькі цуд, але ў эканоміцы цудаў не бывае.




***Клімавіцкі лікёра-гарэлачны завод***

Трэба зразумець, што сапраўдныя праблемы Клімавіцкага ЛГЗ зусім не ў якасцях ягонай гарэлкі, крытыкаваць якую апошнім часам стала проста модна. Ва ўсялякім разе Касцюковіцкі спіртзавод, што абслугоўвае ЛГЗ, вырабляе спірт, аналагаў якому няма ва ўсім СНД. Так што карпаратыўны брэнд “Клімград” для разумных пакупнікоў не пустое месца, а паважаная гандлёвая марка. Толькі і “Клімград” не дапаможа, калі развіццё прадпрыемства стрымліваецца бязглуздымі эканамічнымі ўмовамі. Немагчыма паверыць, але ў некаторыя гады Клімавіцкі завод правяралі чатырыста разоў на год, гэта значыць, штодзень прыязджала адна-дзве праверкі. А колькі праблемаў прынясло абмежаванне продажу прадукцыі ў рэгіёнах. Мясцовыя ўлады прымалі такія нецывілізаваныя рашэнні, каб выдаліць непажаданага канкурэнта. Дарэчы, у мінулым годзе клімавіцкая гарэлка была прадстаўлена на Паўднёваафрыканскай міжнароднай гандлёвай выставе ў Іаханесбургу. Дык вось, да Афрыцы дабраліся, а ў некаторых абласцях краіны не здолелі знайсці паразумення. Канкурэнцыя адсутнічае, таму што ў Беларусі адсутнічае рэальны рынак.

Агульнавядома, што парушаць грамадскія і прававыя законы нельга, а эканамічныя законы — немагчыма. У Беларусі паспрабавалі абвергнуць гэтую аксіёму і толькі даказалі яе ўніверсальнасць. Нашы прадпрыемствы вырабляюць запатрабаваныя грамадствам тавары і гадамі не могуць вырашыць праблемы з іх рэалізацыяй. Бюджэт атрымлівае ад продажу мільярдныя прыбыткі і адначасова аплочвае мільярдныя страты. Дзяржава патрабуе ініцыятывы і самастойнасці, але сама стварае перашкоды на шляху канкурэнтных адносін. У гэтым сэнсе Клімавіцкі лікёра-гарэлачны завод выдатна адлюстроўвае заганы і недахопы беларускай эканамічнай сістэмы. І пакуль яны існуюць, мы не ўбачым ні эфектыўнай працы, ні нават якасна зробленай гарэлкі.

## Якія прагнозы на будучыню Клімавіцкага ЛГЗ?

***Мікалай Гердзій*** *– працаваў у кіраўнічых органах, у 1993-2000 гг. намеснік старшыні Крычаўскага райвыканкама, зараз на пенсіі:*

— Клімавіцкі лікёра-гарэлачны завод — гэта не шараговы суб'ект гаспадарання. Ад вынікаў ягонай працы залежыць жыццядзейнасць цэлага раёну. Да таго ж прадпрыемства з'яўляецца буйнейшым падаткаплацельшчыкам Магілёўскай вобласці. Усе гэтыя абставіны нельга не ўлічваць. Калі казаць пра магчымыя прагнозы, то трэба вяртацца ў мінулыя часы, калі клімавіцкая “вертыкаль” пачала ўмешвацца ў кадравыя прызначэнні на прадпрыемстве. Якраз тады на завод трапілі не лепшыя спецыялісты, што спарадзіла хранічныя праблемы з вытворчасцю прадукцыі і знешнім гандлем. Аб тым жа сведчыць ліквідацыя Забялышанскага спіртзавода, які быў падначалены ЛГЗ, сённяшняя сітуацыя на Краснабудскім вінзаводзе. Што будзе далей? У бліжэйшай перспектыве чакаецца прыватызацыя прадпрыемства. Але не ўпэўнены, што яна дапаможа, бо ў нашых умовах дзяржава, як правіла, ідзе на прыватызацыю не ад добрага жыцця.

***СЯРГЕЙ АРЖАНЦАЎ***

*усяго патроху*

## У Шклоўскім раёне жывёлы не хварэюць?

Галоўны ветэрынарны ўрач Шклоўскага раёна сцвярджае, што становішча с захворваннямі жывёлы сухотамі (туберкулёзам) у раёне не выклікае непакою

Пра гэта Іван Радоўскі паведаміў у Шклоўскай раённай газеце "Ударны фронт".

У 2011 годзе ў раёне было даследавана на сухоты па першаму разу 35 142 галавы буйной рагатай жывёлы, па другому – 19 735. З іх выяўлена station ўча рэагіруючых на сухоты адпаведна 100 і 120 галоў. У прыватным сектары даследавана 967 галоў, выяўлена 3 рэагіруючыя. Усе гэтыя жывёлы былі здадзены на мясакамбінат.

У гэтым годзе праца па выяўленні хворай на сухоты жывёлы працягваецца . Ужо даследаваны дойны статак у ААТ "Александрыйскае" і ПУП "ААБ Гарадец". Выяўлена адпаведна 6 і 4 галавы хворай буйной рагатай жывёлы, якія таксама здадзены на мясакамбінат.

Між тым на мінулым тыдні шэраг беларускіх і расійскіх інтэрнэт-сайтаў распаўсюдзілі інфармацыю аб нібы маючым месца масавым захворванні жывёлы сухотамі ў ААТ "Александрыйскае" Шклоўскага раёна. Сцвярджалася таксама, што заражанае малако ад хворых кароў пастаўлялася на малакоперапрацоўчыя прадпрыемствы і спажыўцам у Беларусі і Расіі.




Раней першы намеснік міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі Надзея Каткавец заявіла, што гэтая інфармацыя не адпавядае рэчаіснасці.

«Малако з сухотамі проста не можа патрапіць ні ў Расію, ні ў нашу гандлёвую сетку, — заявіла Надзея Каткавец. — На ўсіх этапах — на ўваходзе малака на любое прадпрыемства, на выхадзе прадукцыі, — ажыццяўляецца строгі кантроль».

*Барыс Вырвіч*

## Генерал-губернатар абяцае сярэдні заробак у памеры 3,8 мільёна рублёў



*Пётр Руднік*

Падчас чарговай сесіі абласного Савета дэпутаў, Пётр Руднік вызначыў асноўную мэту на 2012 год.

- Галоўным вынікам працы павінна стаць дасягненне такога важнага паказчыка, як рост сярэдняга заробку, які да снежня цяперашняга году не можа быць меней за 3,8 мільёна рублёў, - падкрэсліў ён.

На гэтым жа пасяджэнні гаварылася і пра невыкананне «асобных паказчыкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця». Ці атрымаецца ў Пятра Рудніка выканаць абяцанне, пакажа час.

Гэтымі ж днямі ў Бабруйску, другі высокі чыноўнік - старшыня Палаты прадстаўнікоў Уладзімір Андрэйчанка, таксама гаварыў пра зарплату:

- Нельга разлічваць, што хтосьці дасць нам грошы і хтосьці проста так падвысіць заробкі. Грошы трэба зарабляць самім.

Шляхі, якімі ўлада будзе шукаць грошы на зарплату, не змяніліся: пошук інвестараў, падвышэнне прадукцыйнасці працы і рост экспатра прадукцыі.

*Андрэй Волкаў, "Наш Магілёў"*

## Пракуратура звярнула ўвагу на непаўналетніх

Пракуратура Быхаўскага раёна лічыць, што ў раёне неналежна выконваецца заканадаўства аб папярэджанні падлеткавай злачыннасці

Стан спраў з папярэджаннем падлеткавай злачыннасці ў Быхаўскім раёне выклікае занепакоенасць у супрацоўнікаў пракуратуры раёна. У прыватнасці, памочнік пракурора Быхаўскага раёна, юрыст 2 класа Наталля Ражкова, канстатуе, што ў мінулым 2011 годзе ўдалось дасягнуць пэўных поспехаў у зніжэнні падлеткавай злачыннасці ў Быхаўскім раёне, аднак звяртае ўвагу на іншыя негатыўныя тэндэнцыі:

"Несмотря на значительное снижение количества преступлений, совершенных несовершеннолетними, пристального внимания требует состояние административных правонарушений в подростковой среде, общее количество которых в 2011 году увеличилось на 5,2% (с 134 до 141).

С 10 до 24, или на 140%, увеличилось количество несовершеннолетних, привлеченных к административной ответственности за совершение мелких хищений, с 47 до 58, или на 23,4%, — за распитие спиртных напитков в общественных местах или появление в общественном месте в пьяном виде.

Результаты проведенных прокуратурой района проверок и анализ практики прокурорского надзора свидетельствуют о том, что сложившееся положение, наряду с объективными социально- экономическими факторами и недостатками в семейном воспитании, нежеланием многих подростков учиться и работать, во многом объясняется ненадлежащим исполнением отдельными учреждениями, организациями и ведомствами законодательства о предупреждении подростковой преступности, недостаточно действенной системной и целенаправленной работы на данном направлении служебной деятельности, которая требует пристального и постоянного контроля".

Вывады памочніка пракурара Быхаўскага раёна аб неналежным выкананні "асобнымі арганізацыямі, установамі і ведамствамі раёна" заканадаўства аб папярэджанні падлеткавай злачыннасці пацвяржае і той факт, што ўжо ў гэтым годзе ў Быхаўскім раёне адбылося два злачынствы з удзелам непаўналетніх. За парушэнне антыалкагольнага заканадаўства толькі ў студзені да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнута шэсць падлеткаў. Чатыры чалавекі прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці за ўцягненне непаўналетніх у антыграмадскія паводзіны.

*Багдан Іваноў*

апошняя старонка

# … ЦІ БУДУЦЬ ЯШЧЭ ТЫЯ ВЫБАРЫ




… У сэнсе ўдзелу ў іх дэмакратычных сілаў і магчымага абвяшчэння “парламентскім выбарам” байкоту. А ў Магілёве тым часам днямі прайшла імпрэза па стварэнні абласной Рады кампаніі “За справядлівыя выбары”. Ініцыявана і праведзена гэтая імпрэза была пад патранажам Беларускай партыі левых “Справядлівы свет” і руху “За сумленныя выбары”. Кіраўнікі абедзьвух гэтых арганізацый сп.сп. Сяргей Калякін і Віктар Карняенка і самі прынялі ўдзел у магілёўскай нарадзе, куды былі запрошаны палітычныя, грамадскія і прафсаюзныя суполкі дэмакратычнай накіраванасці. У выніку дыскусіі ўдзельнікі імпрэзы прынялі рашэнне аб тым, што выбары будуць мець патрэбу ў шчытным назіранні і кантролe. Гэтаму і павінны будуць спрыяць арганізацыі, прадстаўнікі якіх увайшлі ў Раду, а шараговыя чальцы – у сам рух. На нарадзе былі абраныя і два каардынатары кампаніі ад Магілёва – Юры Новікаў і Галіна Лісіцына (добра вядомыя ў рэгіянальным дэмакратычным руху актывісты і лідары дэмакратычных прафсаюзаў).

Практычна на парозе нарады, па гарачых слядах яе для нашага выдання пракаментаваць падзею пагадзіўся Юры Новікаў, якому мы адрасавалі 3 пытанні.

*— Назавіце арганізацыі і структуры, што прынялі ў Магілёве прапанову аб стварэнні кампаніі “За справядлівыя выбары” і аб практычным у ёй удзеле.*

— Калі ласка. Гэта – АГП, БХД, Справядлівы свет, Партыя “Надзея”, БСДП (Г), БСДП (НГ), “Еўрапейская Беларусь”, “Гавары праўду”, Свабодны прафсаюз Беларускі, Свабодны прафсаюз металістаў, РЭП. Устрымаўся пакуль мясцовы БНФ, спадзяемся, што часова, і адмовіліся прынцыпова – рух ЗА СВАБОДУ і Партыя свабоды і прагрэсу (існуе ў выглядзе арганізацыйнага камітэту па стварэнні).

*— Не выпадае гэтае ўтварэнне з нацыянальнай дэмакратычнай damoвы аб няўдзеле ў выбарах?*

— На вялікі жаль, як заўсёды, адзінай пазіцыі ў вышэйшым эшалоне дэмакратычнай партыйнай апазіцыі пакуль няма. Нават прыхільнікі байкоту разумеюць яго па рознаму. Напрыклад, Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя — за катэгарычны байкот, БНФ и АГП маюць намер вылучыць кандыдатаў, а ў апошні момант зняцца з выбраў. “Справядлівы свет” і сацыял-дэмакраты з Народнай Грамады маюць намер ісці да канца. А цвёрдай пазіцыі, як мне бачыцца, пакуль яшчэ няма ні ў каго. Таму цяпер нельга нікога ні ў чым абвінавачваць – усё яшчэ наперадзе.

*— У чым сутнасць намеру кантралявання і назірання за выбарамі, нелегітымнасць якіх ужо зараз (як і іхны вынік, дарэчы) можна адказна абвесціць?*

— Да выбараў яшчэ шмат часу. Не выключана, што сітуацыя зменіцца ў лепшы бок. Але ж падрыхтавацца да выбараў за некалькі дзён нерэальна, так? Таму да назірання за выбарамі мы ўжо і пачнём рыхтавацца, прафесійна і пісьменна. Наша кампанія “За справядлівыя выбары” перш за ўсё мае на мэце менавіта гэта – актыўнае назіранне з мэтай недапушчэння ніякіх парушэнняў выбарчага заканадаўства. Ды нават, калі ўсе дэмсілы і выступяць за байкот, будуць людзі, што пойдуць да выбарчых урнаў – вось іх і трэба будзе падлічваць і фіксаваць усё, што будзе адбывацца на выбарчых участках. Такім чынам, кантраляванне выбараў, назіранне за імі абавязковыя пры, як гаворыцца, любым раскладзе.

**Віктар ВОЙТ**

## Бабруйчаніна судзілі за нежаданне служыць у войску



У мясцовым ваенкамаце прайшоў паказальны суд над ухілістам ў прысутнасці некалькіх дзясяткаў прызыўнікоў.

Падобнага судовага паседжання ў Бабруйску не было ўжо некалькі гадоў. На хлопца, які не жадаў ісці ў войска, завялі крымінальную справу па артыкуле за ўхіленне ад прызыву. Па ёй маладым людзям пагражае ад штрафу да пазбаўлення волі да двух гадоў.

На паказальны суд запрасілі некалькі дзесяткаў будучых прызыўнікоў, мабыць, каб добранька прыстрашыць. Ухіліст быў прызнаны вінаватым, яго пакаралі штрафам.

**Златка ГУЛІНСКАЯ**

## На Магілёўшчыне ліквідавалі падпольную наркалабараторыю

Там рабілі метадон. Па высновах экспертаў, у ёй маглі выраблаць да трох кілаграмаў наркотыку на тыдзень.

Лабараторыя знаходзілася ў адной з вёсак і была арганізаваная ў студзені-лютым гэтага года. Міліцыянты затрымалі трох жыхароў Магілёва. У лабараторыі знайшлі абсталяванне для хімічных рэакцый, а таксама болей за 500 літраў хімічных рэагентаў. Падчас пераструсу было знойдзена 70 грамаў выробленага метадону, паведамляе mycity.by.

На ўсіх наркагандляроў пачалі крымінальныя справы.

магілёўскі Выбар

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі

Адрас рэдакцыі: Магілёўская воб, аг-к В. Машчаніца, вул. Савецкая, д.4. Тэл. 8 - 0259 204 308, e-mail: Boris152@gmail.com. Выдавец Семяновіч Сяргей Сяргеевіч. Наклад: 299 асобнікаў, фармат А-4. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 06.03.2012 г. у 23-30.